# КРЫВІНКА

КРАСАВІК
№ 6 (178)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




З СУДОВАЙ ЗАЛЫ

## ТРАПІЎ НА ЛАВУ ПАДСУДНЫХ

**На лаве падсудных апынуўся інспектар энергаінспекцыі Бешанковіцкага раённага вытворча-збытавага ўчастка Віцебскага аддзялення філіяла «Энергазбыт». Ён дазволіў сабе за нявыкананне дзеянняў, якія ўваходзяць у яго абавязкі, атрымаць ад бытавога абанента К. у якасці хабару грашовыя сродкі ў суме 2 500 000 рублей.**

Яраслаў, працуючы на пасадзе тэхніка Бешанковіцкага раённага вытворча-збытавага ўчастка Віцебскага аддзялення філіяла «энергазбыт», 16-га лютага 2015 года устанавіў, што грамадзянін К. вырабляе аплату за спажытую электраэнергію як бытавы абанент, у той час, як па паказаным адрасе жылога памяшкання зарэгістравана прыватнае унітарнае прадпрыемства.

Яраслаў паведаміў К. па тэлефоне аб сітуацыі, якая склалася і папрасіў яго зняць паказанні электралічыльніка і даць яму указаныя звесткі. К. пагадзіўся, дамовіліся аб сустрэчы. Размова з К. адбылася каля будынка "Энергазбыту" ў ягонай машыне. Яраслаў паведаміў К., што яму трэба даплаціць 5 000 000 рублёў. Той пацікавіўся, што можна зрабіць, каб аплаціць меншую суму. Тады Яраслаў прапанаваў К. пакінуць усё як было за ўзнагароду ў 2 500 000 рублёў. К. даў станоўчы адказ. Пасля чаго Яраслаў у базе «Энергазбыт» змяніў адрас абанента К., падставіўшы да нумара дома літару «А».

Названыя дзеянні прывялі да схавання факту выкарыстання К. жылога памяшкання для месцазнаходжання прыватнага унітарнага прадпрыемства, а таксама пацягнулі за сабой атрыманне К. выгады маёмаснага характару, якая выказалася ў аплаце за электраэнергію па заніжаным тарыфе.

Далей7-га сакавіка 2015 года Яраслаў, ужо займаючы пасаду інспектара энергаінспекцыі Бешанковіцкага раённага вытворча-збытавога ўчастка Віцебскага аддзялення філіяла «Энергазбыт», з'яўляючыся службовай асобай, ведаючы пра тое, што дапушчанае Карпекам І.А. парушэнне патрабаванняў заканадаўства аб парадку разлікаў за электраэнергію не ліквідавана, прыняў ад К. для сябе ў якасці хабару матэрыяльныя каштоўнасці ў выглядзе грашовых сродкаў у суме 2 500 000 беларускіх рублёў.

Рэальна ацаніўшы сітуацыю, якая склалася, грамадзянін К. звярнуўся з заявай у Бешанковіцкі РАУС, у якім паведаміў аб тым, што адбылося, і стаў аказваць дапамогу следству, што дапамагло яму пазбегнуць крымінальнай адказнасці за дачу хабару. А вось Яраслаў паўстаў перад судом. Ён прызнаны вінаватым у атрыманні хабару і на падставе ч.1 арт. 430 КК Рэспублікі Беларусь асуджаны да 2 гадоў 6 месяцаў абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з ажыццяўленнем кантролю ў галіне энергазабеспячэння тэрмінам на 5 гадоў. 22-га сакавіка 2016 года прыгавор уступіў у законную сілу.

**Намеснік пракурора**
**Э. Лешанок**

## ****

*Вясна халоднымі далонькамі*
*лісты чаромхавыя кратае*
*вітае ўсіх сваіх палоннікаў,*
*шле пацалункі ім заўзятыя.*

*Пралескам вочкі расфарбоўвае,*
*кустам лазовым шые штонікі,*
*і размяркоўвае шпакоўні ўсе*
*сярод няўрымслівых вандроўнікаў.*

*Бярозкам завушніцы вешае,*
*а вербам коцікі залоціць,*
*вятрам залётным байкі смешныя*
*распавядае з асалодай.*

*То глыбіню блакіту мерае,*
*то шчыльных хмараў*
*гоніць плойму,*
*на небасхіле зоркі першыя*
*сціскае ў радасных абдоймах.*

*Людзям усмешкі дорыць шчырыя,*
*дзяўчатам міні апранае.*
*Гусей, што прыляцелі з выраю,*
*дажджом з вясёлкаю вітае.*

*Фарбуе твары пазалотаю*
*ўсім, хто вясною апантаны,*
*а пры сустрэчы расцалоўвае*
*ім вусны дзёрзка-нечакана.*

*Аглушаны раптоўным дотыкам,*
*душу сагрэўшы зледзянелую,*
*я падару табе на досвітку*
*сваё каханне ашалелае.*

***Г.Станкевіч***

НАВІНЫ ЭКАНОМІКІ

## ТРУСЫ ПА ФРАНЦУЗСКІХ ТЭХНАЛОГІЯХ

**Высокатэхналагічны комплекс па вырошчванні трусоў мае намер стварыць ТАА «Бешанковічы Аграпрадукт» на ўмовах СЭЗ "Віцебск", рэзідэнтам якой днямі зарэгістраваная гэтая прыватная кампанія.**

Вытворчасць, якая не мае аналагаў у Беларусі, плануецца размясціць на адной з пляцовак свабоднай эканамічнай зоны сектара №1 «Журжава» у абласным цэнтры. Як паведамілі «Віцебскім весткам» у адміністрацыі СЭЗ, тут ўкараняць сучасныя французскія тэхналогіі з высокай ступенню аўтаматызацыі вытворчых працэсаў.

Магутнасць комплексу складзе больш за 500 т мяса ў год. Прадукцыя будзе накіроўвацца пераважна на экспарт, а таксама прадавацца на ўнутраным рынку, што дазволіць замяніць імпартную сыравіну для выпуску дыетычнага харчавання, у тым ліку дзіцячага. У ходзе рэалізацыі праекта мяркуецца стварэнне каля 40 працоўных месцаў.

ТАА «Бешанковічы Аграпрадукт» створана ў 2010 годзе і спецыялізуецца на вытворчасці кармоў для сельскагаспадарчых жывёл, у тым ліку заменнікаў неразведзенага малака і яго канцэнтратаў, якія выкарыстоўваюцца для кармлення маладняку буйной рагатай жывёлы.

**"Віцебскія весткі"**



НАША ЖЫЦЦЁ

## РЫХТУЕМСЯ ДА БУДАЎНІЦТВА ПОЛАЦКАЙ ГЭС

**У Бешанковіцкім раёне поўным ходам ідуць работы па ўмацаванню берагоў рэк.**

Тое можна назіраць з вакна аўтамабіля, калі едзеш на Вулу. На Вулянцы выразаюць дрэвы, якія могуць трапіць у зону затаплення. У Фролкавічах тая работа ўжо зробленая.

Між тым па БТ паказалі, што на Віцебскай ГЭС у гідравузлах бетоннай сцяны пачаўся мантаж энергаагрэгатаў. Іх лопасці будуць прапускаць 200 кубаметраў вады ў секунду.

На галоўным гідравузле бетонныя працы амаль завершаны, а вось у былым абводным канале толькі пачынаюцца. Зараз тут будуюць шлюз. Яго шырыня складзе 13,5 метра. Тысячы вагонаў бетону спатрэбяцца для таго, каб Заходняя Дзвіна заставалася суднаходнай. Пасля зімовага зацішша на будаўнічай пляцоўцы працуюць 24 гадзіны ў суткі.

У рамках праекта будуюць дарожныя развязкі, высакавольтныя лініі, масты і ўмацоўваюць берагі Заходняй Дзвіны. Гэта каля 20 кіламетраў. Разам з кітайцамі працуюць і беларусы.

ГЭС стане самай магутнай у краіне - 138 мільёнаў кілават у год. Гэтага хопіць, каб забяспечыць электраэнергіяй ўвесь Віцебскі раён. Калі вадасховішчы запоўняць, тут з'явяцца і рэкрэацыйнай зоны, штучныя вадаёмы глыбінёй да трох метраў. Далей у планах стварэнне баз адпачынку.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах БТ**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## РАМОНТ ПОМНІКА ЛІТАРЫ "Ў"

**Сёння помнік літары "Ў" у Полацку выглядае не лепшым чынам. На яго пастаменце — цытата з верша Рыгора Барадуліна «Ад Еўфрасінні, ад Скарыны, ад Полацка пачаўся свет». Літары гэтых радкоў пашкоджаныя.**

Нехта лічыць, што тут «пагаспадарылі» вандалы, іншыя — што сілунівая літары пацярпелі ад дажджу і снегу, а хтосьці вінавацiць дворнікаў, што неахайна чысцілі помнік.

Помнік літары «Ў» быў усталяваны ў Полацку ў 2003 годзе, калі тут праходзіў Дзень беларускага пісьменства. А што ён пашкоджаны, высветлілася яшчэ два гады таму. З тае пары грамадскасць не раз звярталася да мясцовых уладаў з просьбай адрамантаваць помнік, але адказы былі выключна пра тое, што сродкаў на рамонт няма.

Нарэшце мы даведаліся рэквізіты рахунка, які адчыніла КУП ЖКГ г.Полацка.

№ 3132000200023, г. Полацк 216 ААТ АСБ Беларусбанк МФА 648 УНП 300058727 АКПА 3373894. "На рамонт помніка "Ў" патрабуецца сабраць каля 80 мільёнаў рублёў.

Калі Вы маеце жаданне дапамагчы ў аднаўленні помніка, просім Вас перавесці свае грошы на гэты рахунак, абавязкова пазначыўшы мэту перавода. На рамонт трэба сабраць каля 80 мільёнаў рублёў. Калі кожны з нас перавядзе 20 – 50 000, то гэтая сума будзе лёгка сабраная.

**М.Васільеў**

НАША ЖЫЦЦЁ

# НОВЫ ГРАФІК РАЗВОЗКІ ГАЗА Ў БАЛОНАХ

**З 18-га красавіка зменіцца графік дастаўкі газа для абанентаў Бешанковіцкага раёна ў сельскай мясцовасці. Яго будуць развазіць з 9-30 да 16-30.**

Цяпер па панядзелках газ будуць вазіць у вёскі Рубежскай зоны: Рубеж, Верхняе Крывіна, Кошчава, Крывое Сяло, Буднікі, Ганкавічы, Карабова, Дубкі, Застарынне, Малыя і Вялікія Галыні, Пажарышча, Целяпні, Заходна, Паліцы, Дабрыгоры, Русілкі,Андрукі,Хізава,Шчыпцы, Шаламы, Асавец, Асінаўка, Маскалёнкі, Навумаўка, Новыя і Старыя Ранчыцы.

Па аўторках газ павязуць на Вярхоўскую зону: Берасні, Траяны, Лабачова, Вярхоўе, Драбушова, Селішча, Сватаўка, Луг, Застарынне, Васкрасенцы, Куты, Шчукі, Чаркасы, Дапаны, Стар, Вадапоева, Шкалёўка.

Па сярэдах газ павязуць у кірунку Плісаў: Крывіна, Ніжняе Крывіна, Бараўцы, Двурэчча, Хмяльнік, Ржаўка, Саннікі, Семянцова, Елішава, Лапы, Дашкава, Соржыца, Берашэўцы, Замошша, Падакі, Рэвякі, Будзілава, Гняздзілава, Вяжышча, Дуброва, Беркава, Ліхошына, Бардашы, Сініцы, Сіняны, Макраны, Кудзяны, Жауры, Засор'е, Засценкі, Светагорава, Застарынне, Плісы, Жаркі, Замашэнне, Латыгава, Панкратава, Руда, Пясочня, Абухава, Данілаўка, Купіна, Вядзерава, Бузаны, Александрова, Навасёлкі, Прыдзвінне, Шуты, Жыгалы, Клішы, Малыя і Вялікія Паўлавічы, Забелле, Холм, Гародна.

Па чацвяргах газ будзе пастпаць у вёскі бачэйкаўскай зоны: Слабодка, Жданова, Галі, Хоціна, Паўазер'е, Гарані, Заезвіна, Скакуноўшчына, Жалезкі, Нізгалава, Двор Нізгалава, Марцінава, заручэўе, Сокарава, Шапчына, Бычкова, Дыбалі, Ярмолаўшчына, Чаўнышкі, Касарэўшчына, Вадапоева, Доўгае, Заполле, Свяча, Сасняны, Шышова, Папкі, Жахоўшчына, Літвякі, Камоскі, Паручнікі, Аскершчына, Бабаедава, Галькі, Радзюкі, Ільягова, Навасёлкі, Шыпулі, Багданава, Клешчыно, Промыслы, Дзятлава, Забелле, Высокая Гара, Новае Сяло, Бачэйкава, Чурылава, Жарнасекава, Далосцы, Немцава, Быцава, Саўрасы, Селядцова.

Па пятніцах газ павязуць у вёскі ў накірунку Улы: Броды, Зорнікі, Фролкавічы, Ула, Дубішча, Панізоўе, Бортнікі, Ульянаўка, Дразды, Варахобкі, Алейнікі, Быстры, Галыні, Буй, Мамойкі, Янаўшчына, Пяцігарск, Баброўшчына, Ганчарова, Стрыжава, Давыдкава, Слабодка, Сенькаўшчына, Лукашоўка, Забор'е, Дукоўшчына.

Па суботах газ павязуць на Астровенскую зону: Крупеніна, Чанавічы, Замялочча, Таўсцюкі, Горкі, Гародна, Астроўна, Малы Двор, Пушкары, Белае, Дзягілева, Доўгае.

У Бешанковічы балонны газ будзе дастаўляцца штодзённа з 8-30 да 10-00.

**Анжэла Людына**
**«Зара»**

НАША СПАДЧЫНА

# "ТРЫ ВАГОНЫ КАШТОЎНАСЦЯЎ, ВЫВЕЗЕНЫХ У МАСКВУ"

**Падчас Першай сусветнай, або, як тады казалі, Вялікай еўрапейскай вайны, з Бачэйкава сышлі ў Маскву тры вагоны, гружаныя карцінамі, каштоўнай мэбляй, посудам і архіўнымі дакументамі. Усе гэтыя каштоўнасці назапашваліся стагоддзямі ў салонах мясцовых землеўладальнікаў.**

Першая згадка пра маёнтак і мястэчка Бачэйкава, якое размешчана на заходнім беразе Улы, прытоку Дзвіны, паміж Лепелем і Віцебскам, адносіцца да 1460 года. У 1769 годзе ў сувязі з чаканым прыездам караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста па праекце італьянскага архітэктара чарговым уладальнікам, Юзэфам Цеханавецкім, за адно лета быў выбудаваны шырокі аднапавярховы каменны палац у стылі класіцызму, які захаваўся да Другой сусветнай вайны. Унутры яго ўпрыгожвалі фрэскі. Палац, як і ўся гаспадарка, падрабязна апісаны ў манаграфіі Уладзіслава Цеханавецкага "Хроніка аднаго маёнтка" (Пецярбург, каля 1905 года), адкуль відаць, што ўжо ў 1770 годзе ў Бачэйкаве і бліжэйшых вёсках дзейнічала суконная фабрыка, што выраблялa тканіны пунсовага, блакітнага і іншых колераў, выраблялася зброя, карэты, мэбля, шкло, гліняны посуд. Працавалі ў асноўным мясцовыя сяляне, якімі кіравалі майстры, запрошаныя з Англіі. З Заходняй Еўропы прывозілася пародзістая жывёла, ураджайныя гатункі збожжавых і бульбы. Унук Юзэфа Цеханавецкага Павел пасылаў не толькі сваіх сыноў, але і сялянскіх дзяцей на вучобу ў Пецярбург, Тулу і Маскву. Ён жа актыўна выступаў за адмену прыгоннага права. Пры Паўле Цеханавецкім Бачэйкава стала грамадскім, эканамічным і культурным цэнтрам усяго краю ўздоўж Улы і шырэй - Прыдзвіння. Сюды заязджалі дыпламаты, у тым ліку французскія і шведскія. Запрашаліся на вечары кампазітары, спевакі, пісьменнікі. Відавочна, бываў і "беларускі дудар" Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, бо што іначай растлумачыць, што на выданне яго беларускага перакладу эпапеі Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" тут падпісаліся аж тры Цеханавецкія - Павел, Ігнат і Алекс. Апошнім уладальнікам сядзібы стаў Ежы Станіслаў Цеханавецкі (1893 - 1930), які ажэніцца на Мацільдзе Асецімскай-Чапскай з Варнянаў. Іх сын Анджэй Станіслаў нарадзіўся ў Варшаве ў 1924 годзе. Апошні нашчадак князёў Мсціслаўскіх-Заслаўскіх, жыў у Лондане, падтрымліваў плённыя сувязі з радзімай сваіх продкаў, за што быў удастоены высокай узнагароды Беларусі - ордэна Дружбы народаў. Памёр у лістападзе 2015 года.

Цяпер - невялікая і зацікаўленая экскурсія па пакоях неіснуючага сёння бачэйкаўскага палаца.

У адрозненне ад іншых беларускіх сядзібаў, бачэйкаўскую сталовую упрыгожвалі не сямейныя партрэты, а зашклёныя шафы з дарогім посудам, выробленым у Францыі і Саксоніі, а таксама у радзівілаўскіх мануфактурах у Налібоках і Урэччы. Затое ў суседніх пакоях віселі партрэты і іншыя карціны. У гэтым пакоі была наступная мэблёўка: стары пісьмовы стол з чырвонага дрэва, вялікі стол з чырвонага дрэва з адкіднымі дошкамі, чатыры кніжныя шафы ў стылі Людовіка XVI , якія складалі ў сабе частку сходаў па гісторыі і белетрыстыцы колькасцю ў некалькі тысяч тамоў, у тым ліку з аўтографамі Бальзака і Крашэўскага, затым чатыры масіўных крэслы з чырвонага дрэва, дзве інкруставаныя і дэкараваныя бронзай камоды, белы сакрэтнік з бронзай, што заключае другую частку польскага ( радзівілаўскага. - А.М.) шкляного посуду. З твораў мастацтва, акрамя партрэтаў, упрыгожвалі яшчэ кабінет белы гадзіннік з размаляваным гербам у стылі Людовіка XVI, польскі (відавочна, карэліцкі. - А.М.) габелен з гербамі XVIII ст., старая зброя, а таксама акварэлі і фатаграфіі".

Перайшоўшы бальную залю, упрыгожаную якой купалам і плафонам з алегарычнымі кампазіцыямі прыпісваецца Антонію Смуглевічу, і павярнуўшы ўправа, можна было трапіць ў "блакітны салон" (па колеры афарбоўкі) з трыма вокнамі. Лічылася, што з усіх палацавых пакояў гэты спраектаваны і абстаўлены лепш за ўсіх.

Наступны пакой у паўночным напрамку называўся "каралеўскім", бо ён павінен быў служыць спальняй Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Дзве калоны дзялілі яе на часткі. у глыбіні пад чырвоным балдахінам знаходзіўся велізарны ложак. Каралю Рэчы Паспалітай не прыйшлося там спаць, затое, абвяшчае легенда, падчас паходу на Маскву тут спачываў Напалеон. На самой справе там правёў ноч толькі яго пасерб - экс-кароль Італіі Эуген. Людзі з каралеўскага акружэння лічылі Бачэйкава самай прыгожай рэзідэнцыяй на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага. "Каралеўскі пакой", як засведчыў у сваёй "Хроніцы" Уладзіслаў Цеханавецкі, упрыгожвалі люстэркі ў пазалочаных рамах і хрустальная лямпа з бронзы. На сценах віселі ўсяго дзве карціны - "Мадонна" італьянскай школы і партрэт Пятра Вялікага, які лічыўся добрым. Побач з "каралеўскім пакоем" размяшчаўся "кабінет Напалеона". Мэблёўка яго была выкананая ў стылі Людовіка XVI. Сцены ўпрыгожвалі партрэты. Дапаўнялася ўсе французскімі гравюрамі і невялікім пазалочаным люстэркам.

Злева ад бальнай залы размяшчаўся "чырвоны салон", названы так у адпаведнасці з колерам абівальных тканіны. Як і ў "блакітным пакоі", тут былі тры вакны, ля сцен стаяла раскошная мэбля ў стылі зноў жа Людовіка XVI. У "чырвоным салоне "віселі і стаялі яшчэ прадметы і творы мастацтва, напрыклад, малыя медальёны звідамі чавусаўскага маршалка Станіслава Цеханавецкага і Тэрэзы з Цеханавецкіх Галынскіх, гадзіннік Бола з кансоллю, дэкараваный бронзай, старыя алейныя лямпы з кітайскага і сеўрского фарфору, бронзавы гадзіннік XVIII стагоддзя, мармуровая італьянская ваза, калекцыя белых фігурак з саксонскага фарфору, дзве вазы ў стылі "Бельведэр" бронзавай танацыі з золатам і, нарэшце, слуцкія паясы

Нарэшце, хаця б некалькі слоў пра вуглавы будуар і архіўны пакой. Паркетная падлога ў першай з іх лічылася самай прыгожай у Бачэйкаве, параўнальным толькі з паркетам каралеўскага палаца ў Варшаве. Для ўзору тут выкарыстали 36 розных парод дрэва. У падлозе меўся тайнік. Пакой ўпрыгожвала мэбля XVIII і XIX стагоддзяў, акварэлі і гравюры. У сямейным архіве захоўваліся дакументы пачынаючы з XV стагоддзя. Неацэнныя лічыліся матэрыялы па гісторыі Беларусі і шляхецкіх сем'яў. Сярод лістоў найбольшую цікавасць выклікала перапіска Александрыны Цеханавецкай, асобы неардынарнай, з французскім раманістам Анарэ дэ Бальзакам, рускім царом Аляксандрам II і шведскім каралём Оскарам II.

Поўнае апісанне ўсіх каштоўнасцяў, сабраных за стагоддзі ў бачэйкаўскім палацы, заняло б яшчэ газетны разварот, тут жа пералічаны толькі асноўныя скарбы, якія ў 1916 годзе ў сувязі з пагрозай наступлення немцаў ратаваліся Цеханавецкім, відавочна, у першую чаргу. Яны, зыходзячы са слоў Анджэя Цеханавецкага і Рамана Афтаназі, і апынуліся ў тых трох вагонах, загружаных, хутчэй за ўсё, у Чашніках, адпраўленых у Маскву на захаванне і там бясследна зніклаўшых.

Бясследна? Але па прыбыцці каштоўнасці тут жа павінны былі быць прынятыя на ўлік. Ці зафіксаваць передачу на захоўванне ў адным з музеяў, з ведама або без ведама гаспадароў. Тры вагоны - не іголка ў стозе сена. Вядома, падчас падзей 1917 года скарбы маглі быць разрабаваныя. Але ў такім выпадку хоць нешта недзе "засвяцілася" б (асабліва партрэты). Ды і адсутнасць "засвечвання" абнадзейвае: значыць, верагодна, усё знаходзіцца ў адным месцы. Бачэйкаўскія калекцыі, асабліва мэблевыя, для нас у поўным сэнсе бясцэнныя. Івось чаму. Шмат у чым дзякуючы Анджэю Цеханавецкаму, які знаходзіцца з Радзівіламі ў роднасных сувязях, завяршаецца рэстаўрацыя Нясвіжскага замка. Для замкавых інтэр'ераў патрэбна мэбля XVIII і XIX стагоддзяў, якой поўна было ў Бачэйкаве, а таксама ў шырокай пецярбургскай кватэры Цеханавецкіх. І я цешу сябе надзеяй, што ўзмоцненыя пошукі двух або, можа, трох міністэрстваў культуры ўвянчаюцца поспехам. І тады апошні спадчыннік слаўных беларускіх родаў стрымае сваё слова, дадзенае двойчы, што тое, што знаходзілася на беларускай зямлі на ёй жа і застанецца.

Такие ж надзеі выказаны і ў шырокім пасланні, якое было накіравана з Лондана Анджэем Цеханавецкім сваім землякам у сувязі з 550-годдзем Бачэйкава. У лісце ідзе гаворка пра тое, што у павільёнах і доміку лоўчага, якія захаваліся, можа быць створаны "малы музей". Пасланне сканчаецца сардэчнымі словамі: "Хоць геаграфічна я ад Вас далёка, аднак заўсёды сэрцам і думкаю я - апошні з Цеханавецкіх - знаходжуся побач з Вамі. З сэрца плывуць мае пажаданні Вам сямейнага шчасця, гаспадарчага развіцця і поўнага ажыццяўлення тых мараў пра росквіт Бачэйкава, якія валодалі маімі продкамі". Імёны найбольш значных з продкаў іх годны спадчыннік увекавечыў на мемарыяльнай пліце, прывезенай у Бачэйкава і ўсталяванай са згоды мясцовых уладаў каля хаткі лоўчага. Дарэчы, гэта пакуль адзіны такі выпадак у Беларусі.

**З газеты "СБ"**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ПАСЛАННЕ

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ ЎЛАДЫ

**Фармат прэзыдэнцкага пасланьня прадугледжвае шчырую размову з грамадзтвам пра актуальныя праблемы. Няхай сабе і не зусім шчырую, але, ва ўсялякім разе, гэта павінна быць сур'ёзнае тлумачэньне дзяржаўнай палітыкі насельніцтву. Толькі ў такім выпадку падобнае мерапрыемства мае сэнс.**

І што мы маем цяпер? За два гады сярэдні заробак у краіне ў валюце зьменшыўся амаль удвая (у 2014 годзе ён быў звыш 600 даляраў, а на 1 сакавіка 2016 году скараціўся да 307). У любой краіне гэта прыкмета эканамічнай катастрофы. Плюс масавае спыненьне вытворчасьці, скарачэньні на прадпрыемствах, рост камунальных тарыфаў, павелічэньне пэнсійнага ўзросту і іншыя крызісныя зьявы. Сытуацыя ў нечым падобная да пачатку 1990-х гадоў. Для значнай часткі беларусаў адзіная надзея, апора, ад якой чакаюць выратаваньня, — гэта дзяржаўныя інстытуты. Людзі спадзяваліся, што будзе нарэшце сказана, у якую яму трапіла краіна, што прывяло да гэтага і як будзем выбірацца.

Але не дачакаліся. Зьмест пасланьня сьведчыць пра тое, што кіраўніцтва дзяржавы і народ жывуць у розных рэальнасьцях. Трэба было здарыцца гэтаму крызісу, каб убачыць, што на шчырую, хоць і цяжкую, размову з народам Лукашэнка ці то ня здольны, ці то не гатовы да яе. Замест адказу на пытаньні, якія хвалююць, людзі пачулі звыклыя прапагандысцкія тэзісы. Кшталту таго, што насельніцтва не пярэчыць супраць падвышэньня пэнсійнага ўзросту.

Не прагучала прызнаньня самога факту сацыяльна-эканамічнага крызісу. Лукашэнка абмежаваўся нязграбным эўфэмізмам, кшталту «тэмпы разьвіцьця запаволіліся». Насамрэч даўно ўжо няма ніякага разьвіцьця, адмыслоўцы разважаюць пра маштаб падзеньня. Як пісалі сатырыкі, «спад пайшоў угору». Кіраўнік жа дзяржавы робіць выгляд, што нічога не адбываецца.

Калі няма крызісу, то дзіўна было б разважаць пра аналіз яго прычын. І, зразумела, ня можа быць адказу на пытаньне — што рабіць? Калі няма прызнаньня катастрофы, то няма сэнсу і разважаць, як зь яе выбірацца. Таму ня трэба ніякіх перамен, рэформаў, будзем працягваць ранейшы курс. У выніку мы пачулі стандартны набор заклікаў, патрабаваньняў: «павысіць», «паглыбіць», «пашырыць» і «палепшыць». Хоць цягам усяго выступу Лукашэнка сам жа прыводзіць прыклады, якія сьведчаць, што ранейшыя мэтады кіраваньня не працуюць. Напрыклад, мы даведаліся, што ўлады, дзяржсэктар ня могуць прапанаваць акупныя праекты ня толькі пад кітайскія крэдыты, але ўжо і пад крэдыты Ўсясьветнага банку.

Ці вось яшчэ. Як павысіць эфэктыўнасьць навукі, перайсьці да інавацыйнай вытворчасьці? Правільна. Напісаць яшчэ адну праграму.

Усе гэтыя разважаньні мы чуем ужо амаль 22 гады. І чым далей, тым менш каго яны кранаюць. Беларусы прызвычаіліся ня толькі да дэвальвацыі рубля. Адбываецца дэвальвацыя слоў, прамоваў, яны ні на што не ўплываюць.

Больш за тое, калі палітык, які ў сілу сваёй пасады павінен браць на сябе адказнасьць, прымаць насьпелыя рашэньні, спрабуе рабіць выгляд, што ўсё нармальна, нічога рабіць ня варта, — то адбываецца ўжо дэвальвацыя ўлады. А лідэр, які ўхіляецца ад адказнасьці, ня хоча вырашаць праблемы, аб'ектыўна страчвае давер. Пра што і сьведчаць вынікі сакавіцкага сацыялягічнага апытаньня.

А само прэзыдэнцкае пасланьне перастае быць падзеяй грамадзкага жыцьця. І ператвараецца ў пусты рытуал.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

СТОП, НАРОКТЫКІ!

# «ДЫ АЧНІСЯ! …МЫ НЕ ЧАСТКА РАСЕІ»

**«Ці можна абудзіць Аляксандра Лукашэнку ад чмуру расейскіх наркаабдымкаў?» Разважае палітоляг Уладзімер Падгол, які заклікаў кіраўніка краіны ўсталяваць наркакантроль на мяжы з Расеяй**

У пятніцу 8 красавіка Аляксандар Лукашэнка правёў нараду па барацьбе з наркотыкамі, пад час якой канстатаваў:

«Беларусь не ізаляваная ад астатняга сьвету, і наркапагроза застаецца. Неабходна прааналізаваць сытуацыю і паставіць адно пытаньне, а можа і некалькі: вызначыць, якія дадатковыя рашэньні патрэбныя ў сувязі з гэтай вострай праблемай. Мы заўсёды ганарымся тым, што наша краіна транзытная, мы атрымліваем ад гэтага пэўныя выгады. Але ў той жа час ёсьць велізарны нэгатыў, і ён, на жаль, павялічваецца, асабліва ў сувязі з падзеямі ва Украіне.

Больш за ўсё наркотыкаў у Беларусь паступае з тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі. Прычым у разы больш чым з суседніх дзяржаваў. Мы гэта ня проста фіксуем, а канфіскоўваем адпаведнае зельле ў наркаманаў і выразна разумеем, адкуль усё гэта».

Цікавы момант. Словы Лукашэнкі пра тое, што з Расеі ідзе «ў разы больш наркотыкаў чым з тэрыторыі суседніх дзяржаваў» можна ўбачыць на відэа, а вось у тэкставых рэпартажах прэзыдэнцкіх тэлеканалаў гэтых слоў я не знайшоў.

Месяц таму 5-га сакавіка і 6-га гэтага года ў паўторы я глядзеў штотыднёвую аналітычную перадачу тэлеканала АНТ Контуры. На самым пачатку прайшоў вялікі сюжэт пра міліцыю, інтэрвію з міністрам МУС Шуневічам. Ён сказаў: «Традыцыйна Беларусь лічылася транзытнай краінай для наркотыкаў. Сёньня, на жаль мы разглядаемся наркадзялкамі як краіна спажывец».

Унутры сюжэта паказалі дакумэнтальны фільм пра судовы працэс над 17-ю наркадзялкамі.

У фільме прагучаў сказ Аляксандра Лукашэнкі: «Амаль усе наркотыкі прыходзяць з Усходу. Дагляду на мяжы няма».

8 сакавіка я напісаў

***(працяг на стар. №4)***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БАРАЦЬБА ЗА РЭСУРСЫ І ЧАЦВЁРТАЯ ПРАМЫСЛОВАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

**Адзіная антыкрызісная стратэгія ў рамках беларускай мадэлі — сціснуць зубы і чакаць аднаўлення ранейшых коштаў на нафту.**

«Каменны век. Племя ўламраў збегла ад ворагаў у незнаёмыя землі. У няроўнай бітве загінула шмат воінаў, дзяцей і жанчын, родная тэрыторыя была пакінутая. Выжыванне племені пад пагрозай, і самае страшнае — згас агонь, які гарэў днём і ноччу, ратуючы людзей ад звяроў, ворагаў і непагадзі». Гэта анатацыя да кнігі Роні-Старэйшага Жозэфа «Барацьба за агонь», якую я запазычыў з інтэрнэту.

А цяпер скарыстаемся машынай часу і перанясемся праз тысячагоддзі ў Авальную залу Дома ўраду. На календары 21 красавіка 2011 года, на трыбуне — адзіны палітык (АП). Ён выступае з пасланнем да беларускага народу і Нацыянальнага сходу: «Няўжо ўсе не разумеюць, што ідзе вайна за рэсурсы, за гэтую нафту?!»

Ад барацьбы за агонь да барацьбы за нафту. Такія крайнія кропкі ў гісторыі чалавецтва, і прамежак паміж імі запоўнены барацьбой за рэсурсы.

Зразумела, у кожнага перыяду гісторыі быў свой асноўны рэсурс. Чым гандлявалі нашы продкі, якія арганізавалі шлях з варагаў у грэкі? Адкрыем кнігу гісторыка Уладзіміра Хораса «Руская гісторыя ў параўнальным асвятленні»: «Паводле шэрагу гісторыкаў, дабрабыт Кіеўскай Русі трымаўся на рабаўладанні. «Жывы тавар», які здабываўся ў войнах, быў галоўным артыкулам вывазу на чарнаморскі і каспійскі рынкі».

Пра рэнтабельнасць «галоўнага артыкула» сведчыць наступнае: маладая дзяўчына каштавала ў Кіеве 2 куны, а на нявольніцкіх рынках Канстанцінопаля — 100. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што «раб» па-англійску — «slave», г.зн. славянін.

У «Рускай праўдзе» — зборы законаў, выпрацаваных у сярэдзіне XI стагоддзя, — маёмасць цэніцца значна даражэй за чалавека, яго асабістую бяспеку і годнасць. Поспехі Кіеўскай Русі, як пісаў гісторык Васіль Ключэўскі, дасягаліся «цаной прыгнёту ніжэйшых класаў».

У сучаснай Беларусі «дэмакраты і праваў чалавека не менш, чым у іншых». Хто б спрачаўся. Уся справа ў тым, што ў нас «ёсць свой погляд на гэтыя і іншыя актуальныя пытанні гуманітарнай сферы». Усё сапраўды так: гэты погляд абапіраецца на традыцыі, сфармаваныя яшчэ ў Кіеўскай Русі….

**Чарговая пераацэнка**

Мае студэнцкія гады (пачатак 70-х) прыйшліся на актыўную фазу навукова-тэхнічнай рэвалюцыі (НТР). Яе галоўная характарыстыка — ператварэнне навукі ў вядучы фактар вытворчасці. Ва ўсялякім разе, так мне распавядалі на лекцыях па марксізму-ленінізму.




За мінулыя з тых часоў дзесяцігоддзі ўплыў «вядучага фактару» на сацыяльна-эканамічныя працэсы ў свеце павялічыўся шматкроць. Чацвёртая прамысловая рэвалюцыя, пачатак якой быў зафіксаваны на Сусветным эканамічным форуме ў Давосе, — толькі адзін з прамежкавых вынікаў НТР. Яшчэ адзін маштабны вынік — чарговыя кардынальныя змены на рынку прыродных рэсурсаў.

НТР не адмяніла «вайну за рэсурсы». Яна зрабіла іх пераацэнку. На першае месца, як і ў часы Кіеўскай Русі, зноў выйшаў чалавек, але не ў якасці «прылады, што гаворыць», а ўпершыню ў поўнай адпаведнасці са сваёй відавой прыналежнасцю, г. зн. у якасці чалавека разумнага (homo sapiens).

Культура, паводле аднаго з вызначэнняў, ёсць пазабіялагічны спосаб вырашэння агульнабіялагічных праблем, галоўнай з якіх з'яўляецца праблема выжывання. Крытэры паспяховасці яе вырашэння — павелічэнне колькасці і арэалу распаўсюджвання біялагічнага віду. Паводле тых жа крытэраў можна ацэньваць і стан лакальных культур.

Канкрэтны прыклад. За дзесяць гадоў (з 2000 па 2010) насельніцтва ЗША павялічылася на 9,7%, а насельніцтва Расіі за той жа перыяд скарацілася на 2,7%. Каэфіцыент фертыльнасці (колькасць народжаных дзяцей да жанчын) у ЗША і Расіі меншы за 2, што сведчыць пра немагчымасць натуральнага ўзнаўлення насельніцтва.

Прырост насельніцтва ў ЗША забяспечваюць тыя, хто прыехаў. Толькі за першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя краіна прыняла 14 мільёнаў мігрантаў.

У 2015 годзе ў Беларусі на выхадзе мы маем 80,5 тысячы грамадзян, якія атрымалі від на жыхарства ў краінах Еўрасаюза. Важкі аргумент, пагадзіцеся. Ва ўмовах адноснай празрыстасці дзяржаўных межаў пераможцы ў барацьбе за галоўны прыродны рэсурс сёння вызначаюцца не на палях бітваў, а шляхам галасавання, «галасавання нагамі».

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

## СТОП, НАРОКТЫКІ!

(пачатак на стар. №3)

ліст Лукашэнку, каб той увёў наркакантроль на мяжы з Расеяй. Намесьнік начальніка галоўнага ўпраўленьня па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб К.Г. Побаль адказаў мне, што мой ліст пераслалі ў МУС. Адказ з МУС напісаў начальнік галоўнага ўпраўленьня В.М. Лосіч. Ён падрабязна паведаў мне, як змагаюцца за наркотыкамі. Адказаў па-беларуску.

Але ж я пісаў Лукашэнку пра неабходнасьць увядзеньня наркакантролю на мяжы з Расеяй. І нават Шуневіч ня мае на то паўнамоцтваў.

Тады я напісаў кіраўніку КДБ Вакульчыку пра гэтую гісторыю і прапанаваў разабрацца з тымі, хто ў адміністрацыі Лукашэнкі бярэ на сябе функцыі кіраўніцтва дзяржавай. І вось нечаканая нарада Лукашэнкі па барацьбе з наркотыкамі.

З моманту майго звароту да Лукашэнкі (8 сакавіка) да яго нарады прайшоў роўна месяц. Можна толькі здагадвацца, ці простае гэта супадзеньне: мой ліст да Лукашэнкі і Вакульчыка і гэтыя нарада.

Агульная высnова, якая гучала з вуснаў уладара наркотыкаў: „Мы перамаглі наркадзялкоў“. Але ж засталіся пытаньні Лукашэнкі з пачатку нарады: „Неабходна прааналізаваць сытуацыю і паставіць адно пытаньне, а можа і некалькі: вызначыць, якія дадатковыя рашэньні патрэбныя ў сувязі з гэтай вострай праблемай“.

Але галоўнае ўражаньне такое: Лукашэнка як чорт ладану палохаецца словаў пра мяжу з Расеяй. Ні слова пра неабходнасьць наркакантролю на гэтай мяжы не прагучала зь яго вуснаў.

7 красавіка на МАЗе кіраўнік дзяржавы пачаў візыт з ушчуваньня дырэктара:

„Я не пасьпеў сюды прыйсьці — журналістам важна — вы мне пачалі расказваць пра Расею. Ды ачнiся! 25 гадоў мы ўжо незалежная дзяржава. І мы не частка Расеі. У Расеі свае праблемы“. (СТВ і БТ-1 7.04.2016)

Словы А. Лукашэнкі можна з поўнай падставай адрасаваць яму самому: «Ды ачнiся! 25 гадоў мы ўжо незалежная дзяржава. І мы не частка Расеі».

А дадаць трэба наступнае: Мяжа з Расеяй — частка тэрыторыі Беларусі. І сувэрэнітэт над тэрыторыяй Беларусі — гэта і сувэрэнітэт над мяжой.

Там жа сёньня ўладараць наркадзялкі. Яны бескантрольна правозяць у Беларусь наркотыкі. Даўно пара ўсталяваць сувэрэнітэт над мяжой увесьці наркакантроль на мяжы з Расеяй. І ня толькі.

Нядаўна на сустрэчы з амэрыканскім чыноўнікам кіраўнік Беларусі паведаміў, што Беларусь «наваднена зброяй з Украіны». Але ж на мяжы з Украінай поўны памежны кантроль. Праз тую мяжу нават сала немажліва правесьці. Рэгулярна канфіскуюць памежнікі. Значыцца зброю правозяць як і наркотыкі праз мяжу Беларусі і Расеі. Адсюль вынікае неабходнасьць увядзеньня на мяжы з Расеяй кантролю і за перасоўваньнем зброі і выбуховых рэчываў.

У панядзелак прэзыдэнцкія тэлеканалы паказалі, як на мяжы з Расеяй расейскія памежнікі зладзілі татальны кантроль аўто, якія заяжджалі зь Беларусі. Чэргі выбудаваліся на кілямэтры. А вось беларускіх памежнікаў там няма, мытнікі таксама ні наркату, ні зброю ня ловяць. Ну хоць бы адзін патрон знайшлі! Дык не!

У Лукашэнкі язык не паварочваецца сказаць пра неабходнасьць наркакантролю на мяжы з Расеяй і кантролю за перасоўваньнем зброі.

Ці атрымаецца пасунуць яго ў бок абароны нацыянальных інтарэсаў?

У 1996—м калі на Чарнобыльскі шлях выйшла 50 тысячаў, ды выйшлі з лёзунгам абароны нашых хлопцаў ад вайны ў Чачні, ён пакляўся, што ніводзін беларус ня будзе ваяваць за межамі Беларусі.

Прыкладна такім жа чынам адстаялі чысьціню нашых вайсковых аэрадромаў ад расейскіх зьнішчальнікаў.

Нарката і зброя з Расеі больш жудасная рэч для нашай моладзі. Нездарма нават міністар МУС Шуневіч канстатаваў 5 сакавіка на АНТ, што Беларусь з краіны транзіцёра наркотыкаў ператварылася ў краіну — спажыўца. Хочацца пакласьці гэтай пагрозе канец. Няўжо будзем чакаць покуль наркадзялкі падсодзяць на іглу Колю, і бацька возьмецца за абарону усіх коль, маш, і саш.

*“Радыё Свабода”*

## ОБУСТРОИТЬ БЕЛАРУСЬ

# ПЕНСИОННАЯ РЕФОРМА В ТРЕХ ЦИФРАХ

**О пенсионной реформе за последнее время было сказано и написано немало. Сторонники повышения пенсионного возраста в лице президента и правительства, понимая всю рискованность этой затеи, решили перестраховаться и снизить протестный потенциал при помощи PR-акции «Посоветуйся с народом». Народ, чувствуя подвох и понимая, что власти никого спрашивать не собираются, обсуждал ситуацию на кухнях, в очередях и на интернет-форумах, пытаясь понять, как жить дальше. Аналитики и эксперты строили прогнозы и высказывали свои предположения.**

В общем, информационного шума на тему пенсий было предостаточно, хотя всю суть ситуации вокруг пенсий можно выразить в виде трех простых цифр.

**Цифра первая. Сколько денег «отняли» у пенсионеров?**

Проведем расчеты на примере 2015 года. Итак, согласно данным Белстата, на 1 января 2015 года в Беларуси насчитывалось 149 400 мужчин и 244 500 женщин в возрасте 60-62 года, итого 393 900 человек. Условно это то количество пенсионеров, которое могло бы получить пенсию, но не получило из-за увеличения пенсионного возраста.

Размер средней трудовой пенсии в декабре 2015 года составил 2 млн 839,4 тыс. рублей или 158 долларов по средневзвешенному курсу Нацбанка.

Несложные расчеты показывают, что государство за 2015 год «отняло» бы у пенсионеров около 746 млн долларов (393 900 человек х 12 месяцев х 158 долларов).

Хорошенькая сумма, не правда ли?

**Цифра вторая. Сколько денег потеряла средняя семья пенсионеров из-за увеличения пенсионного возраста?**

Предположим, что наши пенсионеры состоят в браке, тогда чистые потери их семьи за три года составят 158 долларов х 36 месяцев х 2 человека = 11 376 долларов.

Много это или мало? Попробуем сопоставить потери с возможными приобретениями.

Например, если бы государство не стало повышать пенсионный возраст, то наша среднестатистическая семья пенсионеров на эти дополнительные деньги могла бы купить новый бюджетный внедорожник, на котором без проблем отъездила бы на дачу все пенсионные годы. А если ездить некуда, то этой суммы как раз хватило бы на покупку скромной дачи под Минском. Или еще, как вариант, наши пенсионеры могли бы выучить двух внуков на программистов за эти деньги. А уж сколько лекарств могли накупить старики — и не сосчитать.

Но ничего этого у пенсионеров не будет, государство решило оставить деньги себе.

**Цифра третья. А каков шанс дожить до пенсии?**

Возраст выхода на пенсию часто сравнивают со средней продолжительностью жизни, и это не совсем корректное сравнение. Почему? Дело в том, что при расчете средней продолжительности жизни учитывается вся смертность, начиная с младенческой. Куда интереснее посмотреть на вероятность взрослому 30-летнему человеку дожить до пенсии.

Итак, до повышения пенсионного возраста на три года вероятность дожить до пенсии для мужчины, который перешагнул 30-летний порог, в среднем составляла 75%, для женщин этот показатель был 94%. Теперь, после увеличения пенсионного возраста, только 68% мужчин доживут до пенсии, то есть каждый третий белорусский мужчина умрет, так ее и не дождавшись. Что касается женщин, то здесь ситуация не столь критична — до пенсии доживет 93% современных 30-летних женщин.

Правда, есть одно исключение — «силовики». Они выходят на пенсию в 45 лет, теперь многие из них будут выходить в 48. Так или иначе, вероятность дожить до пенсии для «силовика» такая же, как и у женщин — около 91-93%. В общем, вывод неутешительный: мужики, если хотите пожить на пенсии, то идите в «силовики».

**Владимир Ковалкин**
**БЕЛАПАН**

## ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АПАЗІЦЫЯ АБ’ЯДНОЎВАЕЦЦА, АЛЕ НЕ ЎСЯ

**Беларускія правацэнтрысты заявілі аб неабходнасці стварэння стала дзеючага круглага стала лідэраў апазіцыі. Зрэшты, месца там знайшлося не ўсім, чаму тлумачыць першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.**

***— Было заявлено о необходимости создания постоянно действующего круглого стола оппозиционных лидеров. А зачем он нужен, если собраться и так можно в любое время?***

— Нужна форма, которая имеет признанный всеми регламент и, соответственно, накладывает определенные обязанности на участников подобного круглого стола. Простые коммуникации происходят постоянно. Но они создают впечатление того, что договоренности в их рамках не носят обязательный для выполнения характер. В рамках круглого стола можно было бы больше формализовать достигнутые между его участниками договоренности.

***— Какие темы сейчас могут обсуждать такие структуры, как партия БНФ и Белорусская партия левых «Справедливый мир»?***

— Абсолютно любые. Например, те же протесты предпринимателей, пик которых, наверное, уже прошел. Но в поддержку этих протестов высказывались все политические структуры, независимо от их идеологической направленности, от социал-демократов до партий правого толка.

Другой пример: координация во время предстоящих в этом году парламентских выборов. Возможно сотрудничество в проведении кампании наблюдения или разработка условий совместной оценки условий их проведения.

***— А можно ли будет считать договоренности в рамках такого круглого стола надежными? Те же партия БНФ и «Справедливый мир» имеют массу встречных претензий.***

— Претензий, действительно, хватает. Они озвучиваются регулярно и публично. Но тем не менее есть публичные политики, которые находят в себе силы преодолеть прошлые противоречия и работать вместе. Примером тут может быть создание правоцентристского блока. Несмотря на предыдущее взаимное недоверие или определенные предостережения, мы сейчас работаем вместе. То же может произойти и в рамках работы круглого стола.

***— Николай Статкевич также предлагал объединиться оппозиции через проведение конгресса демсил. Чем ваше предложение лучше?***

— Наше предложение лучше тем, что оно не затягивает нас в долгоиграющую процедуру, которая может быть интересна исключительно политическим активистам, но не находит никакого отклика в обществе. Круглый стол — это то же самое, но здесь и сейчас. Не надо готовить какие-то собрания, мероприятия, а можно собраться уже сегодня или завтра и начать обсуждать проблемы и вопросы.

***— Заявляя о необходимости проведения круглого стола, вы сразу же поделили оппозицию на правильную и неправильную (имею в виду кампанию «Говори правду»). Стоило ли это делать?***

— Такой раздел наблюдается уже достаточно продолжительное время, он не исчез и сейчас. Это разница в подходах к возможности изменений в Беларуси. Мы предлагаем кардинальные изменения, которые закреплялись бы законами и практикой. Мы не считаем для себя возможным вписываться в существующую систему. Это кардинальный водораздел. Если он исчезнет, можно будет вернуться к обсуждению ситуации работы на совместных позициях.

***— А что плохого в том, чтобы путем переговоров попасть в парламент?***

— Если оппозиционер попадет в парламент исключительно благодаря решению властей, а не поддержке избирателей, то он ничем не будет отличаться от депутатов предыдущих созывов. Он станет таким же ставленником режима и будет озвучивать только то, что ему позволят. Это как будто попасть в ловушку.

Мы стремимся к тому, чтобы парламент был представлен независимыми депутатами, но они должны попасть в него исключительно благодаря победе в своем округе.

*(фрагмент статьи)*

**Крымов Сергей**
**www.belgazeta.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.04.2016 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.